ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 40 (139) 27 кастрычніка - 2 лістапада 1995 г. Кошт 600 рублёў

ПАЗЬНЯК ЗРАБІЎ ВЫБАР - ст. 2.

ШТО НА ВОЗЕ ЦЯЖЭЙ ЗА БАБУ? - ст. 3.

АПОШНЯЯ КАЛОНІЯ Ў ЭЎРОПЕ - ст. 5.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПАМЯЦІ МІХАСЯ ТКАЧОВА

**Ужо тры гады няма сярод нас вялікага беларускага партыёта, вядомага палітыка і гісторыка Міхася Ткачова.**

Я ня ведаў яго асабіста і сустракаў Ткачова толькі на мітынгах БНФ, на сьвяточных мерапрыемствах ды на канферэнцыях гісторыкаў. Ён заўжды быў у эпіцэнтры палітычных падзей. М.Ткачоў выступаў з прамовамі ня часта, але ягоныя прамовы на мітынгах заўсёды былі не падобныя на іншыя.

Хачу сёньня ўспомніць пра сваю апошнюю сустрэчу з М.Ткачовым.

Я добра памятаю той дзень. Гэта было 8 верасьня 1992 года, на сьвяткаваньні Дня беларускай вайсковай славы ў Менску. Прафесар Ткачоў ужо ведаў, што сьмерць стаіць за парогам. Лекары гарантавалі яму два гады жыцьця, а ён пражыў тры. Шмат працаваў, друкаваў свае кнігі, шматлікія артыкулы, меўся напісаць падручнік па гісторыі Беларусі для 5 класа, але не пасьпеў...

Дык вось, 8 верасьня на плошчы Незалежнасьці сабраліся тысячы людзей. Гэта было першае сьвяткаваньне Аршанскіх угодкаў. Пасьля прысягі на вернасьць Беларусі прамаўляў праф. Ткачоў. Якраз заходзіла сонца і ягоныя апошнія промні асьвяцілі Міхася Ткачова. Я й сёньня памятаю ягоны гучны голас: «Бог продкаў нашых Ярыла будзе заўсёды з намі!»

А пасьля, калі пачаўся рок-канцэрт, М.Ткачоў праходжваўся па другі бок агароджы. Я добра памятаю ягоны твар. Ткачоў угладаўся ў вочы прысутных з нейкай сумнаватай усьмешкай. Трымаючы рукі за сьпіной, ён павольна ішоў і разьвітваўся з намі! Зразумеў я гэта толькі 31 кастрычніка 1992 года...

- Ён згарэў, як сьвечка, - сказаў неяк Міхась Чарняўскі. І гэта ёсьць праўда. Не шкадуючы сябе, Міхась Ткачоў усё сваё жыцьцё працаваў дзеля Бацькаўшчыны, змагаўся за яе незалежнасьць.

Міхась Ткачоў адыйшоў ад нас напярэдадні Дзядоў 1992 года, і гэта сімвалічна. І я веру, што і сёньня ён будзе з намі. Бо сёньня Дзяды...



Міхась ТКАЧОЎ

**Ян ВЕЖАН.**

## ДЗЯДЫ

**У гэты дзень штогод зьлятаюцца да нас Сьвятыя Дзяды, каб паглядзець на сваю Бацькаўшчыну й свой сьпячы народ.**

Яны доўга ходзяць па аблоках і твораць малітвы за Беларусь, просяць Бога дараваць народу гэтай зямлі шматлікія грахі. Час ад часу яны спускаюцца на зямлю і ходзяць пад выглядам падарожных па беларускіх хатах, запальваючы ў сэрцах людзей боскі агонь. І таму не перастаюць нараджацца на нашай пакутлівай зямлі воі-асілкі вольнага духу, змагары за вызваленьне Бацькаўшчыны ад акупанцкіх ордаў. Калісьці, на Дзяды 1936 г. таленавіты паэт Уладзіслаў Казлоўскі пісаў пра сьпячага Волата -Беларускі Народ, які абавязкова павінен прачнуцца й парваць ланцугі, што скоўваюць ягоны Вольны Дух. Але вось прайшло з таго часу ўжо амаль 60 гадоў і нічога не зьмянілася... Але гэта ня значыць, што не паўставалі з народу тысячы адважных і самаахвярных волатаў, якія аддавалі свае маладыя жыцьці ў змаганьні за волю і незалежнасьць, складалі свае чыстыя, сьветлыя душы на аўтар Бацькаўшчыны. Дык успомнім сёньня пра некаторых з іх.

Кастусь Каліноўскі - павешаны расейскімі акупантамі ў 1864 г., меў 26 гадоў;

Сяргей Палуян - паэт, скончыў жыцьцё самагубствам у 1910 г., меў 20 гадоў;

Максім Багдановіч - памёр ад сухотаў у 1917 г., меў 26 гадоў;

Іван Луцкевіч - памёр ад сухотаў у 1919 г.;

Ігнат Канчэўскі - памёр ад сухотаў у 1923 г., меў 27 гадоў;

Казімір Сваяк (Кастусь Стэповіч) - памёр ад сухотаў у 1926 г., меў 36 гадоў;

Пётра Крачэўскі - памёр на выгнаньні ў 1928 г.;

Тамаш Грыб - памёр пасьля дзесяцігоддзяў жабрацкага жыцьця на чужыне ў 1938 г.;

Антон Луцкевіч - зьнішчаны расейскімі бальшавікамі ў 1941 г.;

Ян Пазьняк - зьнішчаны расейскімі бальшавікамі ў 1941 г.;

Вінцэнт Гадлеўскі - замардаваны нямецкімі фашыстамі ў 1942 г.;

Уладзімір Шавель - забіты бальшавіцкімі дыверсантамі ў 1942 г., меў крыху больш 20 гадоў;

Васіль Захарка - памёр на выгнаньні ў 1943 г.;

Уладзіслаў Казлоўскі - забіты бальшавіцкімі агентамі ў 1943 г.;

Атаманы Беларускай Народнай Партызанкі: Іван Шанько, Суворы (Лукашук) Патрубейка, Іван Лясьнік, Бокан, Кавалёў, Канстанчук, Нішчанкоў і іншыя - зьнішчаныя бальшавіцкімі дыверсантамі ў 1943 г.;

Атаман Якуб Харэўскі й Кастун Гук - забітыя кадэбістамі ў Бразіліі ў 1968 г.;

Атаман Іван Перагуд, Язэп Пігулеўскі, Мікалай Скрундзь (Ваўкалак), Сілюк, Сілівончык, Гарывада, Кулак, Сувой, Переналоцкі, Царук, Сьцяпан Гукалюк, Ігнатаў, Карповіч, Курэц, Тамашэвіч і дзесяткі іншых - памерлі на чужыне.

Юльян Саковіч - забіты ў 1943 г. польскімі тэрарыстамі са згоды фашыстаў;

Мікола Чарняўскі - зьверскі забіты польскімі шавіністрамі ў 1943 г.;

Франьцішак Аляхновіч - забіты бальшавіцкімі агентамі ў 1944 г.;

Віталь Мікула - забіты нямецкімі фашыстамі ў 1944 г., меў 31 год;

Янка Гінько - загінуў у змаганьні з бальшавіцкімі акупантамі (1945 г.), меў каля 30 год;

Кастусь Езавітаў - замардаваны расейскімі бальшавікамі ў 1946 г.;

Усевалад Родзька - павешаны расейскімі акупантамі ў 1946 г., меў 26 год;

Мікола Шкялёнак - павешаны расейскімі НКУС у 1946 г.;

Іван Гелда - павешаны бальшавіцкімі катамі ў 1946 г.;

Янка Філістовіч - расстраляны расейскімі катамі ў 1953 г., меў 27 год;

Міхал Вітушка - расстраляны расейскімі бальшавікамі ў др. палове 1950-х г.г.;

Усевалад Краўчанка - скончыў жыцьцё самагубствам у 1960 г. у Парыжы...

Можна яшчэ згадваць тысячы імёнаў Волатаў Беларускага Духу, паклаўшых свае галовы ў змаганьні за шчасьце й волю нашага народу. Мы ўспомнім іх сёньня, калі прылятаюць Сьвятыя Дзяды. Успомнім, каб ужо ніколі не забыць!

**Сяргей ДУДАЛІЧ.**

## СКРОЗЬ ЦЕРНІ...

**Другога лістапада ў 11 гадзін на будынку чыгуначнага вакзала Горадні будзе ўсталявана мемарыяльная дошка ў гонар кіраўніка паўстаньня 1863 года на Беларусі і Летуве Кастуся Каліноўскага.**

Ідэя ўвекавечаньня памяці вялікага патрыёта і мучаніка за Беларусь паўстала яшчэ сем год газад у асяроддзі гісторыка-культурнага клубу «Паходня». Пад час шушкевічаўскай «адлігі» гарадзенскі гарвыканкам выступіў заказчыкам, а вядомы скульптар Уладзімір Панцялееў - выканаўцам гэтай работы. Але...

...Як вядома, вятры падулі ў іншы бок. Імпэт уладаў рэзка ўпаў і вось ужо абмяркоўваецца пытаньне, ці варта прысутнічаць на ўрачыстасьці мэру горада, каб ня дай Бог не надаць занадта вялікую вагу «нацыяналістычнай» імпрэзе. І вось ужо «раяць» не прыносіць з сабою тыя сьцяці, пад якімі хадзілі ў бой паўстанцы Каліноўскага. З праграмы ўрачыстасьцяў выключаецца выступ хору «Бацькаўшчына».

Застаецца спадзявацца, што капрызы палітычнага надвор'я ня стануць перашкодай для гарадзенцаў у іх імкненьні аддаць даніну памяці свайму славутаму земляку.

## ЯК ПАДМАНУЦЬ САМІХ СЯБЕ ЦІ КУРС «У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ» У СЬВЯТЛЕ НОВЫХ РАШЭНЬНЯЎ

**На дзіва хутка адрэагавалі на крытыку прэзідэнтам зьместу школьных падручнікаў «кішэнныя гісторыкі», якія кінуліся перарабляць ў «новым духу» школьныя праграмы.**

Шмат высілкаў на гэта не патрэбна. Трэба ўзяць падручнік па гісторыі БССР узору, скажам, 1986 года, а таксама расейскія падручнікі і зрабіць з дзьвюх кніг адну, сапраўды «аб'ектыўную і нетэндэнцыйную». І тады ў ёй можна будзе прачытаць наступнае:

«Посьпеху ў падаўленьні паўстаньня царскія ўлады дасягнулі ня толькі дзякуючы сіле. У маі 1863 г.Віленскім генерал-губернатарам быў назначаны М.М.Мураўёў. Гэта быў энергічны дзяржаўны дзеяч, які з веданьнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы. У Вільню ён прыехаў з планам дзеяньняў і з неабмежаванымі паўнамоцтвамі. Галоўную ўвагу ён зьвярнуў не на вайсковыя дзеяньні, а на цывільнае кіраваньне, маючы на мэце знайсьці ў краі тыя элементы, на якіх рускія ўлады маглі б абаперціся. Перш за ўсё, такім элементам было беларускае сялянства. М.М.Мураўёў дабіўся, каб у краі ня толькі выконваліся нормы «Палажэньняў» 1861 г., але і значнага іх паслабленьня. Больш таго, сялянам перадавалася зямля ўдзельнікаў паўстаньня, М.М.Мураўёў абавязаў сельскія таварыствы наглядаць за мясцовай шляхтай, арганізаваў сьпецыяльныя сялянскія караулы, якія павінны былі весьці барацьбу з паўстанцамі, вялася шырокая антыпаўстанцкая і антыпольская агітацыя. Усе гэтыя меры сьціскалі раён дзеяньняў паўстанцаў і адхілялі ад іх сялян.

М.М.Мураўёў таксама зрабіў захады для замены польскіх чыноўнікаў рускімі, зачыніў каля 30 каталіцкіх кляштараў і шмат касьцёлаў, спрабаваў узмацніць значэньне праваслаўнага духавенства і падняць яго матэрыяльны дабрабыт. У навучальных і грамадзкіх установах была ўведзена руская мова як абавязковая, забаронена выкладаньне польскай мовы ў сельскіх школах, зачынены польскія бібліятэкі. М.М.Мураўёў быў першым з дзяржаўных дзеячаў Расіі, хто ўзьняў пытаньне аб пастаноўцы шырокай народнай адукацыі ў краі, прычым на «местном наречии», пад якім ён, безумоўна, разумеў беларускую мову».

Вось так. Для палякаў і літоўцаў граф Мураўёў - вешальнік, а дзетак-беларусаў вучаць, што асьветнік і дабрадзей. Мо і праўда, ня трэба «распальваць варожасьць» паміж беларусамі і братнім расейскім народам?

Каліноўскі і яго паплечнікі, нашыя прадзеды, закатаваныя Мураўёвым даўно ў зямельцы. Навошта нам помніць пра іх - за памяць нафту і газ ня купіш.

**В.МАЛЬСКІ.**

## ЦІ ДАЖЫВЕ ТОНКАСУКОННАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ ДА 50-ГОДДЗЯ?

**Учора ў аблвыканкаме павінна было вырашыцца пытаньне аб выдзяленьні з абласнога бюджэту аднаго мільярда рублёў тонкасуконнаму аб'яднаньню, каб той мог часткова выплаціць запазычаную за апошнія 6 месяцаў зарплату рабочым.**

Гэта ня першы выпадак, калі вобласьць спрабуе ўзьняць на ногі некалі магутнае прадпрыемства, якое сёньня знаходзіцца ў стане комы. Раней аб'яднаньню было выдзелена 900 мільёнаў рублёў, але ўсе яны пайшлі у «пясок». Туды ж, можна не сумнявацца, пойдзе і гэты мільярд. Дарэчы, законным шляхам пералічыць грошы на аб'яднаньне нельга - яго разьліковы рахунак заблакаваны і ўсё, што на яго паступае, ідзе ў кошт ліквідацыі запазыкі. А яна расьце з кожным днём. Толькі энергетыкам аб'яднаньне павінна 4,3 мільярды рублёў. Тым ня менш, пад ціскам уладаў энергетыкі згадзіліся даць сваім партнёрам яшчэ адзін шанц. У самы бліжэйшы час «рубільнік» на аб'яднаньні зноў будзе ўключаны - будзе аднаўлена падача электраэнергіі. Ці змогуць гэтыя меры выправіць сітуацыю?

Сёньня на складах аб'яднаньня ляжыць каля 35 тон сыравіны. На перапрацоўцы і продажу выробленай з яе прадукцыі можна будзе зарабіць 5 мільярдаў рублёў, працуючы паўтара-два месяцы ў адну зьмену. Але ўсе гэтыя грошы пойдуць на закупку новай сыравіны. Такім чынам, шлях гэты бесьперсьпектыўны. У якасьці выхаду са становішча прапаноўвалася правесьці рэзкае скарачэньне рабочых месцаў: замест 1 500 пакінуць 800 рабочых. Але, па-першае, на скарачэньне няма грошай, а па-другое - горад ня ў стане будзе забясьпечыць працай 700 новых беспрацоўных.

25 кастрычніка на аб'яднаньні прайшоў чарговы сход працоўнага калектыву з удзелам прадстаўнікоў канцэрну Беллегпрам, гарадзкіх і абласных уладаў. На жаль, канкрэтнага плану выхаду з крызісу на сходзе ніхто нак і не прапанаваў, а гэта азначае, што і заўтра, і праз месяц рабочыя будуць галадаць, седзячы бяз працы.

Больш падрабязна пра падзеі на тонкасуконным аб'яднаньні чытайце ў наступным нумары.

**М.В.**

## ПАМЯЦІ МАЭСТРА

У кінатэатры «Гродна» экспануецца выстава памяці выбітнага фотамайстра Юрыя Слабажаніна. На яе адкрыцьці сабралася багата людзей: калегі па фотасправе, настаўнікі 20-й школы, дзе працаваў Юры Слабажанін, аднаверцы з вуніяцкай суполкі і, канешне, дзеці - ягоныя вучні і выхаванцы. У 1980 годзе фотамастак стварыў дзіцяча-юнацкі клуб «Імгненьне». Ён вучыў ня проста фатаграфаваць, а спасьцігаць прыгожае, чароўнае, спрычыняцца да таямніцаў мастацтва. Вядомасьць (здымкі Слабажаніна друкаваліся ў такіх выданьнях як «Советское фото», «Семья и школа», «Известия», «Знамя юности») не замінала яму заставацца сьціплым і надзвычай чульлівым чалавекам. Ён вельмі любіў дзяцей, быў ня проста педагогам, а сапраўдным Настаўнікам.

Яшчэ адным захапленьнем Юрыя Слабажаніна былі здымкі мастацкіх відэафільмаў. Некаторыя яго працы станавіліся прызёрамі адпаведных фестываляў. «Прывідна ўсё ў гэтым сьвеце бушуючым». Жыцьцё кароткае, але памяць пра Юрыя Слабажаніна будзе жыць доўга. І ня толькі ў яго сьветлых, цёплых фотаздымках, але і ў творах спадкаемцаў і вучняў.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## «ВСЁ ХОРОШО, ВСЁ ХОРОШО!»

**25 кастрычніка адбылася сустрэча кіраўнікоў грамадзка-палітычных арганізацыяў Горада са старшынёй Гарадзенскага гарвыканкаму Г.Крупенкам і старшынёй гарадзенскага гарсавету А.Гудзеем.**

Увага прысутных была зьвернутая на тое, як горад падрыхтаваўся да зімы. Некаторыя факты нават парадавалі. Скажам, усе 17 кацельных гатовыя да працы. Па сістэме «Гродназнерга» паліва назапашана аж 110 працэнтаў ад запланаванага. Так што будзем з цяплом. І бульба ёсьць. Праўда, на 900 тон меньш, чым у мінулым годзе. Але тых 1 600 тонаў, якія ўжо сёньня ляжаць на складах, дастаткова, каб пракарміць нас па сакавік уключна.

Зыходзячы з атрыманай інфармацыі можна ня сумнявацца, што грамадзкі транспарт не прымусіць нас успамінаць «кузькіну маць», што ў хуткім часе будзе скончана будаўніцтва стаматалагічнай паліклінікі па вул.Болдзіна і высотнай часткі бальніцы хуткай дапамогі, што пасьля рамонту ачышчальных збудаваньняў мы больш ніколі ня будзем рабіць «брудныя падарункі» бацьку-Нёману...

- Разам з тым, - адзначыў спадар Крупенка, - выклікае трывогу выкананьне даходнай часткі гарадзкога бюджэту. 9 мільярдаў рублёў недаатрымана па выніках трох кварталаў. Але металаапрацоўчыя прадпрыемствы да канца году маюць заказы. Што тычыцца лёгкай прамысловасьці, то сітуацыя там найгоршая...

Высьветлілася, што за апошнія паўтара года 19 тысяч гарадзенцаў займелі ўласнае аўто і лік уладальнікаў аўтамабіляў перавысіў 45 тысячаў. Нягледзячы на новыя мытныя пошліны, у мінулую пятніцу на аўтарынку было выстаўлена на продаж 1 600 аўтамабіляў, што нікольні ня менш таго, што было раней...

Дзелавую частку размовы перабіў адзін з прадстаўнікоў камуністычнай партыі, які заклікаў зрабіць такія сустрэчы традыцыйнымі, а заадно прагаласаваць на выбарах 29 лістапада за кандыдатаў, што прадстаўляюць прыгожую палову чалавецтва.

Сапраўды, на нашых жанчын заўсёды можна пакласьціся!

**Мікола МАРКЕВІЧ.**





## Сьпіс кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь ад Беларускага Народнага Фронту

| Нумар і назва акругі | Прозьвішча, імя, імя па бацьку |
|---|---|
| 1. Берасьцейская-Заходняя | Судак Ігар Вячаслававіч |
| 3. Берасьцейская-Будаўнічая | Несьцярчук Леанід Міхайлавіч |
| 5. Берасьцейская-Усходняя | Базан Уладзімір Сямёнавіч |
| 8. Баранавіцкая-Славянская | Северцаў Мікалай Аляксандравіч |
| 9. Баравіцкая-Усходняя | Скок Віктар Уладзіміравіч |
| 11. Баранавіцкая-Палеская | Гоўша Сяргей Канстанцінавіч |
| 13. Бярозаўская | Русецкі Сяргей Іосіфавіч |
| 25. Лунінецкая | Туркоўскі Станіслаў Станіслававіч |
| 29. Пінская-Заходняя | Шатохін Яўген Сяргеевіч |
| 35. Ружанская | Машкала Іосіф Станіслававіч |
| 36. Столінская | Савіцкі Ільля Паўлавіч |
| 59. Аршанская-Задняпроўская | Санько Юры Фёдаравіч |
| 64. Віцебская-Усходняя | Шалухін Васіль Пятровіч |
| 73. Полацкая-Задзьвінская | Ганчарэнка Мікалай Уладзіміравіч |
| 79. Гомельская-завадзкая | Раманаў Васіль Васільлевіч |
| 80. Гомельская-Новабеліцкая | Мурашка Яўген Васільлевіч |
| 81. Гомельская-Палеская | Кушляроў Уладзімір Іванавіч |
| 86. Гомельская-Цэнтральная | Старчанка Уладзімір Мікалаевіч |
| 89. Хойніцкая-Брагінская | Арцёменка Галіна Іванаўна |
| 122. Гарадзенская-Горкаўская | Мальчык Сяргей Сьцяпанавіч |
| 123. Гарадзенская-Дзяржынская | Задаля Валеры Сьцяпанавіч |
| 124. Гарадзенская-Пралетарская | Жынь Канстаньцін Уладзіміравіч |
| 125. Гарадзенская-Прынёманская | Маркевіч Мікалай Мікалаевіч |
| 126. Гарадзенская-Сувораўская | Міхальчык Аляксандр Аляксандравіч |
| 133. Лідзкая-Чырвонаармейская | Лазарэвіч Сяргей Пятровіч |
| 134. Лідзкая-Камсамольская | Суднік Станіслаў Вацлававіч |
| 135. Лідзкая-Сельская | Маўчун Уладзімір Мікалаевіч |
| 140. Слонімская-Савецкая | Якімовіч Аляксей Мікалаевіч |
| 142. Смаргонская-Гарадзкая | Дзергачоў Аляксандр Мартынавіч |
| 146. Магілёўская-Ленінская | Суднік Генадзь Вітольдавіч |
| 147. Магілёўская-Арлоўская | Фёдараў Анатоль Фёдаравіч |
| 150. Магілёўская-Куйбышаўская | Парахневіч Уладзімір Цімафеевіч |
| 152. Магілёўская-Гагарынская | Смаляк Аркадзь Арсеньцевіч |
| 153. Магілёўская-Алтайская | Груданаў Уладзімір Якаўлевіч |
| 158. Бабруйская-Паўночная | Свізіноў Вячаслаў Віктаравіч |
| 162. Быхаўская | Борскі Ігар Якаўлевіч |
| 181. Барысаўская-Паўднёвая | Мацельскі Барыс Альфрэдавіч |
| 196. Заслаўская | Ерашоў Анатоль Іванавіч |
| 198. Маладзечанская-Паўднёва-Заходняя | Капуцкі Аляксандр Аляксандравіч |
| 201. Мядзельская | Малышаў Генадзь Мікалаевіч |
| 209. Жодзінская-Фабрычная | Краўчанка Пётр Іванавіч |
| 213. Салігорская-Паўночна-Заходняя | Алёшка Уладзімір Рыгоравіч |
| 214. Салігорская-Сельская | Ільюшыц Сяргей Іосіфавіч |
| 221. Менская-Ангарская | Баршчэўскі Лявон Пятровіч |
| 225. Менская-Купалаўская | Гюнтэр Барыс Давыдавіч |
| 226. Менская-Маякоўская | Крыварот Анатоль Аляксеевіч |
| 228. Менская-Ракасоўская | Бордак Уладзімір Адамавіч |
| 229. Менская-Серабракоўская | Гусак Станіслаў Рыгоравіч |
| 230. Менская-Дзяржынская | Хадыка Юры Віктаравіч |
| 232. Менская-Любімаўская | Голубеў Валянцін Фёдаравіч |
| 233. Менская-Ясенінская | Антончык Сяргей Антонавіч |
| 234. Менская-Слабадская | Станкевіч Анатоль Анатольлевіч |
| 237. Менская-Кастрычніцкая | Асташынскі Валянцін Міронавіч |
| 238. Менская-Аэрафлоцкая | Жызнеўскі Георг Анатольлевіч |
| 240. Менская-Трактаразаводзкая | Быкаў Генадзь Аляксандравіч |
| 242. Менская-Акадэмічная | Заблоцкі Уладзімір Мікалаевіч |
| 243. Менская-Каліноўская | Сямдзянава Галіна Георгіеўна |
| 244. Менская-Першамайская | Шынкевіч Сяргей Іванавіч |
| 245. Менская-Уруцкая | Германчук Ігар Іванавіч |
| 249. Менская-Куйбышаўская | Беленькі Юры Адамавіч |
| 250. Менская-Скарынінская | Несьцер Уладзімір Пятровіч |
| 252. Менская-Пушкінская | Раманцоў Уладзімір Іванавіч |
| 255. Менская-Харкаўская | Жук Павел Дзьмітрыевіч |
| 258. Менская-Кунцаўшчынская | Кобаса Міраслаў Уладзіміравіч |
| 259. Менская-Старажоўская | Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч |

## «Яфрэйтары ў адстаўцы» патрабуюць забараніць БНФ

**Добра, трэба прызнаць, папрацаваў у свой час савецкі КДБ, стварыўшы ветэранскую арганізацыю. У любы час-пік нестарэючыя імпэт і энергію яе кіраўнікоў можна накіраваць у патрэбнае русла. Аб тым, што гэты час зараз надышоў, сьведчаць рэгулярныя сустрэчы з ветэранамі кіраўнікоў усіх рангаў.**

Сабраць сёньня ветэранскую аўдыторыю - няма праблемы. Указ аб ліквідацыі ільгот закрануў за жывое усіх. Але зусім ня гэтая тэма становіцца галоўнай на сустрэчах з уладай. «Если вы избяроте хоть адного из этих бывших (маюцца на ўвазе дэпутаты старога Вярхоўнага Савету), из этой контры - не приходите ка мне больше!» - крычаў на ветэранаў Лукашэнка. Маўляў, пройдуць выбары «як трэба», тады і вернем, магчыма, вам ільготы. Можна не сумнявацца, што афіцыйныя ветэранскія арганізацыі зробяць усё, каб было «як трэба». Ну, а каб ніхто не перашкодзіў - трэба заткнуць рот «ворагам народу». Вось і піша гарадзенскі клуб ветэранаў ліст прэзідэнту з патрабаваньнем забараніць Беларускі Народны Фронт. Маўляў, Пазьняк у верасьні ў гарадзенскім драмтэатры заклікаў да зьвяржэньня існуючага ладу.

Сёньня ў вобласьці жыве больш 14 тысячаў ветэранаў Міністэрства абароны, МУС, КДБ. Менавіта «адстаўнікі» складаюць аснову гарадзенскага клуба ветэранаў. На сустрэчы ветэранаў са сп.Дубко, амаль усе пытаньні задавалі палкоўнікі, маёры, яфрэйтары ў адстаўцы, якія і склалі зараз ліст да Лукашэнкі.

Адказу, напэўна, чакаць прыйдзецца надоўга...

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## ПАЗЬНЯК ЗРАБІЎ ВЫБАР

**Лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк даў згоду балатавацца ў дэпутаты Вярхоўнага Савету па Смаргонскай гарадзкой выбарчай акрузе N 142.**

Як вядома, ініцыятыўныя групы па вылучэньню Зянона Пазьняка кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савету былі створаны ў 5 выбарчых акругах у розных рэгіёнах Беларусі. Але Смаргонь пабіла ўсе рэкорды. Больш 2800 жыхароў гэтага горада выказалі жаданьне бачыць у выбарчых бюлетэнях прозьвішча чалавека, які ўжо сёньня стаў сімвалам патрыятызму, палітычнай дальнабачнасьці, маральнасьці і прынцыповасьці.

Калі ўлічыць той факт, што і на прэзідэнцкіх выбарах больш, чым 34 працэнтаы жыхароў Смаргонскага раёну аддалі перавагу Пазьняку (за Лукашэнку, да прыкладу толькі 20 працэнтаў), то шанцы здабыць дэпутацкі мандат у Зянона Станіслававіча ёсьць ужо ў першым туры выбараў, якія адбудуцца 29 лістапада.

**Ул.інф.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБВІНАВАЦІЎ БЫЛОЕ КІРАЎНІЦТВА МУС У КАРУПЦЫІ

**Як вядома, 16 кастрычніка А.Лукашэнка вызваліў Ю.Захаранку з пасады міністра ўнутраных справаў за «дапушчаныя грубыя парушэньні фінансавай дысцыпліны, што выявілася ў нямэтавым выкарыстаньні бюджэтных сродкаў». На жаль, ніхто з адказных асобаў апарата Савету Бясьпекі і Адміністрацыі прэзідэнта не згадзіўся даць больш падрабязны і афіцыйны каментар прычын адстаўкі генерала Ю.Захаранкі.**

З іншых крыніц удалося даведацца, што Юрыя Захаранку абвінавачваюць у парушэньні фінансавай дысцыпліны пры рамонце загараднай рэзідэнцыі МУС. Гэты шыкоўны будынак знаходзіцца на беразе Мінскага мора і прадназначаны для прыёму высокастаўленых гасьцей, што прыязджаюць у Міністэрства ўнутраных справаў. Прычым, аказваецца, Ю.Захаранку, які не шкадаваў грошай на рамонт дзяржаўнага будынку, «разоблачили» работнікі Упраўленьня справамі прэзідэнта. Абсурднасьць выказаных шэфу МУС абвінавачваньняў сьведчыць аб тым, што «справа Захаранкі» рыхтавалася пасьпешна і, пэўна, ніякіх больш сур'ёзных фактаў, кампраметуючых апальнага генерала, прэзідэнцкаму атачэньню знайсьці не ўдалося.

Не патлумачыў гэтую скандальную гісторыю і прэзідэнт. Наадварот, выступ А.Лукашэнкі на сустрэчы з ветэранамі 19 кастрычніка спарадзіў шмат пытаньняў і пасеяў трывогу сярод супрацоўнікаў МУС. У прыватнасьці, каментуючы адстаўку спадара Захаранкі, А.Лукашэнка сказаў: «Эти люди зажрались. Они забыли лозунг, под которым президент шёл к народу. Мне новый министр МВД докладывает, что за двое суток уже арестовано два десятка руководящего состава МВД. Квартиры они там делили и другое. Сегодня Захаренко сбежал и уже трое суток мы не можем его найти. Депутатом, говорят, выдвинулся. Эти люди меня уже обманули».

У Міністэрстве ўнутраных справаў са зьдзіўленьнем успрынялі інфармацыю аб масавых арыштах «руководящего состава МВД». Ні ў прэс-службе МУС, ні ў аддзеле МУС па барацьбе з карупцыяй у ворганах унутраных справаў не змаглі пацьвердзіць словы прэзідэнта. Праўда, адкрыта абвяргаць А.Лукашэнку ў Міністэрстве ўнутраных справаў не адважыліся. Што тычыцца выказваньня прэзідэнта адносна пошуку Юрыя Захаранкі, дык вядома, што 18 кастрычніка Ю.Захаранка прысутнічаў на сходзе супрацоўнікаў упраўленьня ўнутраных справаў Гомельскага аблвыканкаму і быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты.

## БЫЛЫ МІНІСТР МУС ВЫЛУЧАНЫ КАНДЫДАТАМ

**18 кастрычніка на сходзе, які адбыўся ў УУС Гомельскага аблвыканкаму з нагоды вылучэньня кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету, адзінагалосна вылучаны кандыдатам былы міністр унутраных справаў генерал Юры Захаранка.**

Зьяўленьне спадара Захаранкі ў зале выклікала апладысьменты. Паколькі ніхто ня ведаў пра яго візіт, на працягу некаторага часу абмяркоўвалася кандыдатура намесьніка Сьледчага Упраўленьня УУС Леаніда Глухоўскага. Тым ня менш, спадар Глухоўскі падтрымаў прапанову з залы аб вылучэньні кандыдатам Ю.Захаранкі і зьняў сваю кандыдатуру, сказаўшы, што лепшага кандыдата, чым генерал Захаранка, не існуе. Таксама адзінагалосна выказаў свой давер Ю.Захаранку і працоўны калектыў дзяржаўнага гандлёва-камерцыйнага прадпрыемства «Цэнтр», вылучыўшы яго кандыдатам.

Увечары Ю.Захаранка правёў прэс-канферэнцыю, на якой, у прыватнасьці, сказаў: «Я шчасьлівы, што тут, у сябе на радзіме, у калектыве, дзе я прапрацаваў не адзін год, мае калегі сваімі апладысьментамі ацанілі маю працу і я проста ўзьняўся духам». З нагоды свае́й адстаўкі Ю.Захаранка зазначыў, што бачыць толькі адно тлумачэньне - дастаткова прынцыповую нязгоду з прэзідэнтам па метадам пабудовы прававо́й дзяржавы. У прыватнасьці, экс-міністр зазначыў, што сёньня ня тая сітуацыя, калі трэба папраўляць эканоміку дзяржавы за кошт і так гаротных людзей.

## УЛАДЗІМІР СЯНЬКО ПА-ФІЛАСОФСКУ ПРАКАМЕНТАВАЎ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА СВАЮ АДСТАЎКУ

**19 кастрычніка адбылася прэс-канферэнцыя міністра замежных справаў Беларусі Уладзіміра Сянько.**

Спадар Сянько распавёў журналістам пра візіт у Славенію. Па словах міністра, у хуткім часе пачнецца распрацоўка Беларуска-Славенскіх пагадненьняў аб працы, а таксама пагадненьняў аб бязьвізавых паездках грамадзян. Міністр паведаміў, што напрыканцы гэтага месяца Беларусь наведае сьпецыяльны дапаможца дзяржсакратара ЗША па кантактах з краінамі СНД спадар Колінз. У.Сянько паведаміў, што адкрыцьцё новых пасольстваў Беларусі за мяжой у гэтым годзе не плануецца. Каментуючы візіт начальніка грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта У.Замяталіна ў Ірак, дзе ён меў сустрэчы з лідарам Іраку Садамам Хусэйнам, міністр замежных справаў зазначыў: «Пагамоніш з журналістамі, і заўсёды пра нешта новае даведаешся».

Адказваючы на пытаньне, як на міжнародным аўтарытэце Беларусі адлюструецца прызначэньне сакратара Партыі камуністаў Беларусі Івана Антановіча намесьнікам міністра замежных справаў, спадар Сянько адказаў: «Я думаю, што гэта не адлюструецца негатыўна на іміджы Беларусі, але, канешне, было б лепш, каб не было гэтага партыйнага досьведу». Каментуючы інфармацыю пра сваю хуткую адстаўку, спадар Сянько заявіў: «Усе мы ходзім пад Богам».

**СІМ**



СУМЕЖЖА

# АНДРЭЙ МІСІН: «Я НІКОЛІ НЯ ХЛУШУ. НІ САБЕ, НІ ЛЮДЗЯМ».

**Калі ў Шчучын да цёшчы «на бліны» прыязджае Андрэй Місін, усе астатнія падзеі адразу страчваюць сэнс. Усе чуткі, пагалоскі і размовы кружацца толькі вакол яго пярсоны - пярсоны бясконца любімай і паважанай.**

**На гэты раз, назіраючы, як «зорка» ў суправаджэньні жонкі і дауніх сяброў павольна шпацыруе па горадзе, мы ня вытрымалі: папрасілі аб інтэрв'ю.**



*Андрэй Місін*

І вось ён у крэсьле насупраць - кампазітар і музыкант, якога лічаць «сваім» і беларусы, і казахі, і расейцы. Музыкант-філосаф, які ніколі ня хлусіць, не хварэе зорнымі хваробамі і сваёй чысьцінёй імкнецца вылячыць людзкія душы ад эстраднага бруду.

**- Андрэй, многа гадоў таму, на пачатку васьмідзесятых, ты сьпеў песьню, якая многіх з нас упершыню прымусіла задумацца над сэнсам існаваньня. Памятаеш?**

***«Где мой дом?***
***Кто я сам?***
***И куда этот путь неизвестный?»***

**Дык ці знайшліся ўжо адказы на гэтыя няпростыя пытаньні? Хто ты? Сьпявак для духоўнай эліты? Незразумелая сьветлая душа, чужая пошламу меркантыльнаму атачэньню?**

- Ведаеш, я ніколі не лічыў і не лічу сябе сьпеваком. Я кампазітар. Пішу шмат музыкі, якая зразумелая, мабыць, ня ўсім. Пішу для тых, хто не развучыўся думаць. Ніколі ня хлушу. Ні сабе, ні людзям. Ненавіджу фальш і кан'юнктуру. Таму сьпяваю свае песьні сам. Яны - адлюстраваньне маёй сутнасьці.

А наконт сэнсу жыцьця... Па-ранейшаму шукаю яго.

**- У тваіх кампазіцыях музыка настолькі сугучна з тэкстамі, што нават цяжка паверыць, што іх напісаў ня ты.**

- Тэксты для песень - гэта заўсёды пошук, карпатлівы і скрупулёзны. Бо я не працую з вершамі, якія мяне не кранаюць, якія не сугучны майму духоўнаму стану. Я пісаў песьні на вершы Мандэльштама, Слуцкага, Зіедоніса, Хадасевіча, Патрушава і іншых паэтаў. Асабліва шмат добрых адкрыцьцяў і перамог зьвязана з Сяргеем Патрушавым. Мы з ім разам пачыналі. На жаль, сёньня ён піша іншыя рэчы: тэксты песень для Буланавай, Казачэнкі, Вайкуле...

**- Напэўна, асуджаць за гэта чалавека нельга. Бо толькі вельмі ўпэўненыя ў сабе і сваім таленьце людзі маюць права выбіраць і магчымасьць быць сабой усюды: у жыцьці і на сцэне.**

- Ведаеш, чаму на стале Шастаковіча заўсёды ляжаў партрэт Мусаргскага? «Калі я гляджу ў гэтыя вочы, мне лягчэй выкідаць свае творы ў кошык», - тлумачыў свой капрыз вялікі Шастаковіч.

Існуе такое паняцьце, як сумленьне, годнасьць музыканта. На жаль, у наш час у пагоні за грашыма многія «зоркі» пра гэта забыліся. Вельмі многія апускаюцца да выступаў у сумніўных шоў, начных клубах, рэстаранах, вечарынах у бандытаў ці новых рускіх... Або здымаюцца ў рэкламе бульёнаў, замежнай бытавой тэхнікі, вядуць кулінарныя праграмы, гуляюць у брудныя палітычныя гульні. Грошы ж ня пахнуць...

Потым за гэтыя грошы купляецца тэлеэфір. Гэта зусім нескладана: заплаціў у бухгалтэрыі тэлеканалу тысячу долараў, выбраў праграму, дзе хацеў бы «засьвяціцца» - вось табе і папулярнасьць.

Мне такая папулярнасьць не патрэбна. Мне наогул не патрэбна экранная папулярнасьць. Я ніколі не заплачу ні капейкі дзеля таго, каб зьявіцца ў папулярнай тэлепраграме. Я выступаю і буду выступаць толькі там, дзе патрэбны мае песьні, там, дзе хочуць іх пачуць і зразумець.

У рэшце рэшт, усё залежыць ад асобы музыканта. Ва ўсе часы існуе выбар паміж сумленнай сур'ёзнай творчасьцю і таннай папулярнасьцю на некалькі сезонаў.

**- А што будзе з намі, слухачамі, якіх з дня ў дзень «частуюць» псеўдамастацтвам?**

- Грамадзтва, якое захапляецца рэстараннымі сьпевакамі, «Мануэлай», «Трапіканкай» і «шэдэўрамі» да іх падобнымі, вельмі хворае. Яго трэба сур'ёзна лячыць.

**- І ты бярэш на сябе ношу лекара?**

- Мне часта даводзіцца быць лекарам, лекаваць душы тых, хто гэтага прагне, ад разбуральнага эфекту дрэннай музыкі. А між іншым, я сапраўды ледзь ня стаў доктарам. Кінуў медінстытут пасьля другога курса, бо ўвесь час думаў пра музыку.

**- Твой маланкавы ўзьлёт на музычны Алімп - гэта шанцаваньне, вынік сур'ёзнай працы, вызначэньне лёсу, ці яшчэ што?**

- Напэўна, і шанцаваньне, і вера ў сябе, і бясконцая праца...

Усё пачалося ў Шчучыне. Тут я праходзіў тэрміновую службу. Тут і асеў... Бо сустрэў сваё каханьне - цудоўную танцорку Леначку, якая стала маёй жонкай, дарадцай і памочнікам у творчасьці. Тут нарадзілася наша дачка Жэня, і, магчыма, самыя сьветлыя творы. Тут мы «перадзіралі» рок-н-ролы, шукалі сябе. Тут я атрымаў прызнаньне мясцовай публікі.

Працаваў выкладчыкам музыкі ў дзіцячай школе мастацтваў, граў на вясельлях, пісаў шмат музыкі. Увесь час разумеў, як мне гэтага мала.

У 1984 годзе скончыў кансерваторыю і вырашыў, што настала пара сур'ёзнай працы. Паехаў у Маскву - туды, дзе заўсёды кіпела культурнае жыцьцё. Каб неяк заявіць пра сябе, цэлы год сьпяваў у цыганскім тэатры Валяньціны Вішнеўскай. Апранаў цыганскі касьцюм, браў гітару і выходзіў на сцэну. За пяць рублёў... Потым завязаліся патрэбныя знаёмствы, узьніклі цікавыя праекты, зьявілася магчымасьць працаваць у студыі. Некалькі год я адтуль не вылазіў. Мая Муза не пакідала мяне.

А ў 1989 годзе я нечакана для ўсіх стаў пераможцам адразу трох сур'ёзных музычных конкурсаў: «Ступень да Парнасу», «50х50» і Усесаюзнага конкурсу сучаснай песьні. У наступным годзе атрымаў прыз лепшага кампазітара на міжнародным конкурсе «Голас Азіі». Гэта была мая самая дарагая перамога. Мяне, нарэшце, ацанілі як кампазітара.

**- Ходзяць чуткі, што ў Канадзе, куды ты быў запрошаны на фестываль, табе зрабілі дзівосную рэкламу, і слухачы ўспрымалі цябе на «ура», а ў ЗША ты езьдзіш амаль як да сябе дамоў...**

- Гэта ня чуткі. У Канаду я трапіў пасьля перамог на нашых на той час самых прэстыжных конкурсах. Там мяне чакаў прыемны сюрпрыз - афішы і праспекты фестываля гучна інфармавалі: «Андрэй Місін - рускі чалавек-аркестр, які зрабіў кар'еру хутчэй, чым зьмяніліся лідары Палітбюро».

Мне вельмі спадабалася выступаць перад канадцамі. Яны тонка адчуваюць фальш, настроены на ўспрыняцьце складанай музыкі. Перад пачаткам канцэрта я заўсёды тлумачыў, што я не сьпявак, а кампазітар, які выконвае свае творы... І мяне выдатна разумелі.

Што тычыцца Амерыкі, то там я даволі часты госьць. Пасьля ўдзелу ў перадвыбарчай кампаніі Біла Клінтана, я і мая сям'я былі ўшанаваны тытулам ганаровых грамадзянаў горада Little Rok - роднага горада амерыканскага прэзідэнта.

Я з асалодай працую на фестывалях разам з сусьветнымі зоркамі Цінай Цёрнер, Рынга Старам, Сьцінгам, запісваю новыя праекты. Музычная культура амерыканцаў вышэй за нашу. Парой мне здаецца, што яны разумеюць мяне лепш, чым мае суайчыньнікі...

**- У Лос-Анджэласе ты запісаў свой новы альбом?**

- Так. І думаю, што напрыканцы гэтага - напачатку наступнага года вы пачуеце мае «Марудныя казкі» і ацэніце. Мне не хацелася б н і к о г а зьдзіўляць, але гэта будзе яшчэ больш складаная музыка, чым на абодвух папярэдніх альбомах.

**- Вельмі хацелася б зразумець, у якім музычным стылі ты працуеш?**

- Адзін журналіст неяк даў вельмі простае, але дакладнае, на мой погляд, вызначэньне майго стылю: «Гэта мюзікл для аднаго чалавека».

Мая мара - аддаць свае творы ў добры музычны тэатр, каб ня траціць сілы і час на канцэрты і выступленьні. Хачу толькі ствараць... Маю столькі задумак, столькі натхненьня!

**- Андрэй, у Шчучыне ў цябе засталося шмат сяброў. А ці давялося знайсьці сяброў сярод музычнай эліты? І хто з іх зьяўляецца для цябе аўтарытэтам?**

- Павер, у «зорным сьвеце» я так і не знайшоў сяброў. З некаторымі выступаю ў футбольнай каманьдзе «Старко» (апошнім разам мы былі ў Менску і ўдзельнічалі ў сьвяткаваньні юбілею «Верасоў»). Для некаторых пішу музыку (гэта тое, што называю рамяством: нядаўна скончыў цыкл песень для Вадзіма Казачэнкі, Уладзіміра Лявоньцьева, Валеры).

Я амаль не ўдзельнічаю ў «зорных» тусоўках. У Маскве мала месцаў, куды можна прыехаць з адкрытым сэрцам і расслабіцца. Звычайна трэба яшчэ ля ўваходу апранаць маску і весьці альбо слухаць пустыя размовы. Цікава, што нашыя «зоркі» зусім не адрозьніваюцца ад ларочнікаў, якія гандлююць жуйкамі, прэзерватывамі, і адначасова, разумнымі кнігамі.

Навокал фальш, фальш. Фальшывыя твары. Фальшывыя ўсьмешкі. Музыканты-іміджы, якіх, бы лялек, тузаюць за ніткі... Прыгожыя дэкарацыі, багатыя касьцюмы пры поўнай адсутнасьці прафесіяналізму.

Вось чаму эмоцыі і пачуцьці старых сяброў, простых слухачоў мне намнога даражэй, чым ухваленьні так званай багемы. Я не хварэю яе хваробамі...

А наконт аўтарытэтаў. Для мяне ім быў і застаецца ваш зямляк Чэслаў Неман. Вельмі паважаю «Песьняроў». Слухаю шмат народнай і класічнай музыкі. Гэта мяне падсілкоўвае. А галоўнае - ні ў каго нічога не пераймаю. Я -гэта я, ні да каго не падобны. Каб тваю мелодыю пачулі, трэба сыграць яе так, як можаш зрабіць гэта толькі ты...

**- Ты так крытычна ставішся да іншых... А да сябе?**

- Я не крытыкую сябе толькі ў момант стварэньня музыкі. А потым, калі слухаю яе, пачынаю самазьнішчэньне.

**- Некалі ты пісаў пра сябе: *«Моментами я день, я сон, я ночь Моментами я боль, я страх, я плач»* і дасьціпна вывучаў свой адбітак у люстэрцы жыцьця. З якім пачуцьцём ты глядзішся ў люстэрка цяпер? Што бачыш там?**

- Усё тое ж... І мне ня сорамна за чалавека, якога я там бачу...

**Інтэрв'ю брала Ала БІБІКАВА.**

## ЯК ПАРАДЗІЦЬ ТЫМ, ХТО НЯ ХОЧА СЛУХАЦЬ?

**У ціхім і гасьцінным Казімежу Дольным, што непадалёк ад Любліна, 6-7 кастрычніка адбылася канферэнцыя «Трансмежавае кіраваньне, вопыт». Маленькае мястэчка, якое жыве ў асноўным з турызму і адпачынку, чаму спрыяе сівая гісторыя і старажытныя муры замку, што прытуліўся на чубку гары і камяніц сярэднявечнага Рынку, у гэты час прымала прадстаўнікоў Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы і Расеі з тым, каб абмеркаваць праблемы памежнага супрацоўніцтва, высьветліць шляхі іх перадольваньня.**

Арганізатарамі канферэнцыі выступілі: Рада Эўропы, Фундацыя Разьвіцьця Мясцовай Дэмакратыі, Фундацыя ім. Г.Эберта і Палітэхніка Люблінская. На канферэнцыі старшынстваваў прафесар Ежы Рэгульскі - пасол Рэспублікі Польшча ў Радзе Эўропы, адзін з ініцыятараў польскіх рэформ мясцовага самакіраваньня.

З базавым дакладам «Памежнае супрацоўніцтва ў межах Рады Эўропы» на канферэнцыі выступіў дырэктар Сакратарыяту Рады Эўропы спадар Фердынанд Альбанос. Прадстаўнікі Рады Эўропы ў асноўным знаёмілі з правамі і фінансавымі аспектамі памежнага супрацоўніцтва, магчымасьцямі Рады Эўропы дапамагчы фінансава і арганізацыйна-метадычна партнёрам памежнага супрацоўніцтва. Удзельнікі эўрарэгіёнаў «Ныса», «Татры», «Карпаты» і «Буг» распавядалі пра досьвед стварэньня і перспектывы падобных структураў.

На канферэнцыі выступілі люблінскі ваявода (РП) і кіраўнік Валынскай вобласьці (Украіна), планаваўся выступ старшыні Брэсцкага аблвыканкаму, але не адбыўся, як не адбылося і падпісаньне з боку Беларусі пагадненьня аб стварэньні эўрарэгіёну «Буг», хаця папярэдне была атрымана згода беларускага боку.

Пасьля нядзельнай імшы, што зьбірае амаль усё насельніцтва мястэчка, усе казімежцы нясьпешна, з пачуцьцём уласнай годнасьці абходзяць шыхты мясцовых гандляроў традыцыйнымі вырабамі, якія запалілі старажытны брук Рынку, напоўнілі восеньскае паветра смачным водарам булачкаў, куляб'якаў, піражкоў і модных апошнім часам піцаў. Гледзячы на гэтую ідылію, можна было парадавацца за палякаў: іх праблемы, аб якіх казалі на канферэнцыі, знаходзіліся на ў зусім іншым узроўні, да якога нам яшчэ ўздымацца і ўздымацца.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**



АКТУАЛІІ

# АПОШНЯЯ КАЛОНІЯ Ў ЭЎРОПЕ

**Разнастайныя сродкі масавай інфармацыі ўсё часьцей і часьцей зьвяртаюцца да характарыстыкі Беларусі як дзяржавы з аўтарытарным рэжымам, у якой робіцца спроба рэстаўрацыі сацыялізму. Але па-за ўвагай застаецца яшчэ адна істотная рыса краіны - яе каланіяльная сутнасьць. Менавіта з гэтага гледзішча і прааналізуем нашу сітуацыю.**

## РЭТРАСЬПЕКТЫВА

***Колония - страна или территория, находящаяся под властью иностранного государства (метрополии), лишенная политической и экономической самостоятельности и управляемая на основе специального режима.***
***(Большой энциклопедический словарь, т.1, М., 1991 г.)***

Карані сёньняшняга неганаровага стану беларускай супольнасьці знайсьці няцяжка. Пра іх ужо, дзякуй Богу, напісана многа: страта сваёй дзяржавы і далучэньне яе да Польшчы, татальная (месцамі да 90%) гібель беларусаў пад час 13-гадовай вайны пры «добровольном воссоединении Белоруссии и России», крывавае зьнішчэньне вуніяцкай царквы (вернікамі якой былі каля 75% насельніцтва), забойствы лепшых сыноў нашай Радзімы пасьля паўстаньняў Т.Касьцюшкі, К.Каліноўскага, Слуцкага паўстаньня, беспрэцэдэнтны сталінскі генацыд супраць нацыянальнай інтэлігенцыі, вайна 1941-45 гадоў і многае іншае... Але, да гонару нашай Зямлі, не было ў яе гісторыі свайго Багдана Хмяльніцкага, які б дабраахвотна далучаў яе да імперыі. Нас толькі заваёўвалі і зьнішчалі да таго стану, пакуль гэта не паўплывала на генатып нацыі. Ня стала самых лепшых, самых сьмелых, самых разумных і ганаровых. Ад іх не нарадзіліся дзеці, унукі, праўнукі. Выжылі тыя, хто сагнуў сьпіну і апусьціў галаву, каб перадаць сваім дзецям, унукам і праўнукам: «Не высоўвайся!» І мы не высоўваліся. Тое, што не зрабіў за апошнія стагоддзі рускі штык, даканала руская школа (гэтая мэта была выразна акрэсьлена генерал-губернатарам Мураўёвым-вешальнікам).

Дзякуючы савецкай уладзе і «мудрай нацыянальнай палітыцы» Беларусь з правінцыі Расейскай імперыі пераўтварылася ў рэспубліку-дзяржаву, а пазьней нават (нароўні з іншымі краінамі) стала ўдзельніцай ААН. Мы атрымалі права на самастойнае вызначэньне свайго лёсу, але наш лёс вызначыў саюзны цэнтр. Фактычна ж (калі карыстацца міжнароднай лексікай) мы сталі закамуфляванай калоніяй, як і іншыя трынаццаць рэспублік-сясьцёр. Але ад народаў усіх астатніх рэспублік беларусы істотна адрозьніваліся тым, што ўяўлялі з сябе проста частку насельніцтва Савецкага Саюзу, якая займала пэўную яго тэрыторыю -БССР. Нацыянальныя пачуцьці былі настолькі зьнішчаныя, што не выклікалі нават пытаньняў. Нас хвалілі за інтэрнацыяналізм, нас першымі вялі ў камунізм. Беларуская дзяржава была суцэльным зборачным цэхам і сьвінагадоўчым комплексам... Мы, як д'ябал ладану, баяліся нацыянальнай адметнасьці: цураліся мовы, аплёўвалі сваю эміграцыю, з ганьбай успаміналі нацдэмаў. Мы з гонарам сьпявалі: «...ад ворагаў лютых Маскву засланіла, о Белая, Белая Русь!» - і выключалі радыё з беларускім фальклорам. Мы цалкам прынялі, як свае, імперскія каштоўнасьці - імперскую гісторыю, культуру, мову. У адрозьненьне ад іншых народаў мы былі байструкамі ў вялікім СССР, безбацькоўшчынай. Жахліва падумаць, але яшчэ б адно пакаленьне, і беларускі народ, бадай, ужо ня меў бы персьпектывы адрадзіцца. Але літасьцівыя нябёсы падарылі нам шанц на свабоду.

Тое, што адбылося з намі за тры перадпрэзідэнцкія гады, ужо ніколі ня будзе зьнішчана. Знайшліся прарокі ў Айчыне, і пачаўся бурны працэс абуджэньня і фармаваньня нацыі, працэс будаваньня незалежнай нацыянальнай дзяржавы. Але ўсё гэта не магло быць сталым, бо адбывалася насуперак антыбеларускай пазіцыі кіраўніцтва нашай дзяржавы, на фоне нарастальнага эканамічнага крызісу і несупыннага супраціву камуна-імперскіх сілаў.

Нам не хапіла зусім трошкі, лічаных гадоў, каб «крытычная маса» перацягнула ў бок нашай свабоды...

## СУЧАСНАСЬЦЬ

***Неоколониализм - система неравноправных (экономических и политических) отношений, навязываемых империалистическими государствами развивающимся странам...; форма косвенного контроля над ними, пришедшая на смену старой колониальной системе империализма. В основе неоколониализма - экономическая экспансия, нередко сочетаемая с использованием методов политического и военного давления.***
***(Большой энциклопедический словарь, т.1, М., 1991 г.)***

Беларусь пачала новы віток сваёй гісторыі з моманту прыходу да ўлады першага прэзідэнта. Апагеем яго дзейнасьці ёсьць і назаўсёды застанецца антыбеларускі рэферэндум, які прывёў да маральнага прыніжэньня беларускай нацыі ў вачах усіх народаў. Нас вымусілі засьведчыць усяму сьвету, што Беларусь застанецца калоніяй Расейскай Імперыі, апошняй калоніяй у Эўропе. З гэтай беспрэцэдэнтнай акцыі пачалося разбурэньне адроджанай беларускай ідэі. Замест маральнай і зразумелай персьпектывы будаваньня сваёй незалежнай цывілізаванай дзяржавы мы перакрочылі ў перыяд неакаланіялізму. Абсалютна усе характарыстыкі, якія закладзены ў азначэньнях калоніі і неакаланіялізму, мы без цяжкасьцяў знаходзім у сучаснай Беларусі. Найперш мы існуем пры цалкам марыянетачнай уладзе, якая ўсталявала «специальный режим». Але гэта далёка ня ўсё.

У вонкавай палітыцы Беларусь ня мае ніякай сваёй пазіцыі, адрознай ад расейскай. Увесь сьвет уражаны тым нігілізмам, з якім нашы афіцыйныя лідары ставяцца да міжнароднага іміджу сваёй дзяржавы. Мы паўтараем тое, што ўжо было сказана да нас «старэйшым братам». Не выклікае пытаньняў нават той факт, што Беларусь - адзіная краіна ў сьвеце, якая падтрымала асабістую пазіцыю Расеі ў басьнійскім канфлікце. І пры гэтым дыпламат N 1 нашай краіны з гонарам паведамляе ў інтэрв'ю пра асаблівыя,цёплыя і сяброўскія адносіны паміж Беларусьсю і Расеяй! Няўжо ж міністр замежных справаў ня бачыць сапраўдную цану гэтых дачыненьняў і сваёй палітыкі?

Яшчэ больш змрочная карціна ў вайсковай сьферы - наша тэрыторыя так і застаецца «северо-западным форпостом» для ўсходняй суседкі. Не спыняе нішто: насуперак небясьпецы для здароўя беларускіх дзяцей (да якіх так чульліва ставіцца прэзідэнт) эксплуатуюцца шкодныя расейскія базы і будуюцца новыя, яшчэ больш небясьпечныя; канстытуцыйны нейтралітэт перастае існаваць, калі кіраўнік нашай дзяржавы з самазахапленьнем даводзіць пра ініцыятыву самага шчыльнага вайсковага саюзу Менска з Масквой, «чтобы с нами считались». Разам з Расеяй мы ўваходзім у канфрантацыю з усім астатнім сьветам.

Аналагічная сітуацыя ў эканамічнай сьферы, пра што напісана ўжо шмат. Відавочна, што ні адно пагадненьне з Расеяй ня ўлічвае інтарэсы беларускай эканомікі. Калі б было наадварот, то эканамічны стан паляпшаўся б, а мы яскрава адчуваем пярэдадзень катастрофы. З нашай дзіравай кішэні губляюцца мільярды, якія з ахвотай зьбірае на нашых жа дарогах суседка. І так усюды. Без выключэньня.

Мы жывем у чужой інфармацыйнай прасторы, навучаем дзяцей у чужой школе, чытаем чужыя кнігі, сьпяваем чужыя песьні. Мы засвойваем толькі чужую культуру і... бескультур'е. Мы - калонія. Толькі ў калоніі не хапае сваёй мовы і дадаецца (як пераважная) мова метраполіі, толькі калоніі не патрэбная свая незалежніцкая сімволіка.

У кантэксьце бачаньня сітуацыі становіцца зразумелым, чаму быў запланаваны рэферэндум, - каб сфармаваць і замацаваць каланіяльную ментальнасьць і каланіяльную залежнасьць. (Між іншым, у нашы дні аналагічны рэферэндум арганізоўваўся толькі на Бермудзкіх выспах наконт згоды быць Брытанскай калоніяй).

У той час, як усе астатнія новыя незалежныя краіны робяць усё, каб пазбавіцца каланіяльнага мысьленьня і як мага хутчэй пабудаваць паўнацэнныя краіны, у нас назіраецца адваротны працэс. На ўсіх прыступках лукашэнкаўскай вертыкалі мы чуем усхліпваньні: «Без Расеі нам не пражыць»; ад СС «Белая Русь» пераходзіць у статус дзяржаўнай панславісцкая ідэя; лагічна гучыць гімн «Мы, беларусы, з братняю Русьсю...»; з экрана тэлевізара называюцца тэмы сачыненьняў для абітурыентаў: «Пётр І...», «І зовётся этот край Белая Русь», «В дружбе народов наша сіла»; падручнікі па гісторыі кантралюе сам прэзідэнт (такога няма нават і на Бермудах!); адкрыта дэкларуецца дзяржаўная падтрымка рускай праваслаўнай царкве і, нарэшце, на радыё абвяшчаецца вайна незалежніцкай песьні.

Цяпер модна аперываць паняцьцем «беларуская ментальнасьць». Тое, што рабілі з нашай нацыяй на працягу доўгага гістарычнага перыяду і працягваюць рабіць зараз афіцыйныя ўлады, ёсьць нішто іншае, як злачыннае разбурэньне гэтай ментальнасьці. У беларусаў у розуме і крыві генетычна закладзена спадзяваньне толькі на свае сілы. Цяпер жа натуральныя праявы гэтых якасьцяў мы можам назіраць толькі на бытавым узроўні. У дачыненьні ж да палітычных памкненьняў нашы кіраўнікі толькі і робяць, што фармуюць пачуцьцё непаўнацэннасьці нацыі, няздольнасьці мець сваю дзяржаву, залежнасьці ад розуму «старэйшага брата».

У звязку са сказаным ёсьць усе падставы аспрэчваць тое меркаваньне, што ў Беларусі няма пэўнай вайсковай дактрыны, вызначанай міжнароднай канцэпцыі, канкрэтнай эканамічнай праграмы, культурніцкай палітыкі. Усё гэта ёсьць. Але не сваё. Мы маем класічны варыянт дзяржавы-калоніі і некласічны ўнікальны выпадак: ініцыятарам неакаланіяльнай палітыкі зьяўляецца першы «всенародно избранный» прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, сын гэтай зямлі. Дадамо, што і «слабасьць» таварыша Лукашэнкі да сацыялізму, як нішто лепей, садзейнічае той жа мэце - трымаць Беларусь у недаразьвітым, залежным стане. Так і хочацца і павіншаваць усю беларускую грамаду з дасягненьнем гармоніі зьместу і формы (калі пад зьместам разумець наш цяперашні стан, а пад формай - дзяржаўны сьцяг). Беларускія рэаліі шчыльна замяшаны на каланіяльнай сутнасьці дзяржавы (бананавая рэспубліка - адпавядае зялёны колер), якая будуе рынкавы сацыялізм (чырвоны колер), і ў якой функцыянуе сьпецыфічны рэжым (сімвалізуецца мясцовым рушніковым арнамантам). Віват! Але, на вялікі жаль, сітуацыя надзвычай сур'ёзная для таго, каб успрымаць яе толькі іранічна.

Ва ўсім тым, што адбываецца з намі, асобнай увагі заслугоўвае аналіз «роли личности в истории», (на што наводзіў абітурыентаў пад час уступных экзаменаў прэзідэнт). Унутраныя прычыны паводзін кіраўніка нашай дзяржавы зразумець няцяжка - ён іх акрэсьліў сам у адным інтэрв'ю: «Я - советский белорус». І усё становіцца на сваё месца. Адсюль і наіўныя пытаньні палітыка: «А почему я должен переходить на белорусский язык, если русский я знаю лучше?» - і далёкія ад наіўнасьці захады на скасаваньне дзяржаўнай і нацыянальнай адметнасьці. Савецкія забабоны з праімперскай сутнасьцю ўзводзяцца ў ранг дзяржаўнай палітыкі, а за ўсім гэтым праглядаецца няздольнасьць кіраваць сваёй дзяржавай і імкненьне пазьбегнуць адказнасьці за яе сучасны стан. Зразумела, што для кансервацыі далёкага ад дэмакратыі рэжыму застаецца толькі адна надзея - на ўнутраную і вонкавую сілу.

Выступаючы на мітынгу 9 траўня, Лукашэнка пафасна адзначыў, што народ даруе ўсё, акрамя вайны. А хіба тое, што робіцца цяпер, гэта не халодная вайна супраць сваёй нацыі? Да месца засяродзіць увагу і яшчэ на адным «глабальным» выказваньні перэзідэнта (якое ён паўтарыў ужо ў мностве сваіх публічных выступаў) наконт таго, што незалежнасьць -рэч вельмі дарагая і «сегодняшние проблемы - это плата за независимость». Што да другога, то расплочваемся мы якраз за адсутнасьць незалежнасьці, за нежаданьне і няздольнасьць кіраўніцтва дзяржавы будаваць сваю, сапраўды заможную і свабодную краіну. А тое, што мы павінны ўспрымаць незалежнасьць як надзвычай дарагую рэч, то гэта бясспрэчна. За яе нацыі ідуць на вялікія ахвяры, і на працягу гісторыі за вольную Беларусь паляглі сотні тысячаў патрыётаў.

Напрыканцы спынімся на апошняй аптымістычнай старонцы нашага каланіяльнага жыцьця. У выніку актыўных антызаконных дэмаршаў улад пачаўся і актыўны працэс зьнішчэньня падуладнай прэсы. Падтрыманая залежнымі журналістамі афіцыйная лінія, усё больш імкліва зьніжае цікавасьць чытачоў да дзяржаўных выданьняў. Тэндэнцыі ў падпіснай кампаніі яскрава сьведчаць пра гэта. Лагічна складваецца абсалютна аб'ектыўная для нашага часу сітуацыя: чым больш ўціск на дзяржаўную прэсу, тым хутчэй ідзе працэс яе распаду. Найбольш таленавітыя, адказныя і сумленныя журналісты першымі выходзяць з-пад куратарства таварыша Замяталіна. Але іх здольнасьці застаюцца востра запатрабаванымі чытачамі, а таму посьпех свабоднай прэсы (куды сьцягваюцца лепшыя кадры) забясьпечаны. І сімвалам гэтых зьмяненьняў зьяўляецца не трансфармацыя Паўла Якубовіча, а маральнасьць Паўла Шарамета.

У вялікіх муках, насуперак ціску і дзякуючы яму, у Беларусі нараджаецца свабодная прэса. Яна і даводзіць шырокай чытацкай аўдыторыі праўду наконт тых працэсаў, якія адбываюцца ў краіне.

Рэферэндум канстатаваў каланіяльную сутнасьць нашай дзяржавы, але ён засьведчыў і наяўнасьць значнай масы нацыянальна сьвядомых людзей, якія ўжо ніколі не пагодзяцца існаваць ў залежным стане. Яскравым пацьверджаньнем гэтага зьявілася сьвяткаваньне Дня незалежнасьці ў Менску, калі сьвядома і насуперак забароне на вуліцы выйшлі тысячы са сьцягамі свабоды і будучыні.

## ПЕРСЬПЕКТЫВА

***Суверенитет - независимость государства во внешних и верховенство во внутренних делах.***
***(Большой энциклопедический словарь, т.2, М., 1991 г.)***

У персьпектыве нас чакае свая дзяржава, бо менавіта так пайшоў агульны гістарычны працэс. Перыяд неакаланіялізму Беларусі скончыцца, як сканчаецца ён ва ўсіх калоніях. На сёньня застаецца толькі пытаньне, наколькі хутка. Бясспрэчна, наша суседка-метраполія і збанкрутаваныя мясцовыя палітыкі будуць прыкладаць усе намаганьні, каб гэты перыяд зацягнуўся.

Мы яшчэ зможам назіраць цэлы сьпектр тактычных і стратэгічных захадаў на гэты конт. Што да бліжэйшых чатырох гадоў, то, на вялікі сорам, мы вымушаны абмяркоўваць не адзіны варыянт будаваньня сваёй дзяржавы, а іншыя таксама. Маецца на ўвазе інкарпарацыя ў склад Расейскай Федэрацыі, стварэньне канфедэрацыі, і фармальнае захаваньне незалежнасьці Беларусі.

Інкарпарацыя нашай краіны ў склад Расеі становіцца ўсё больш ілюзорнай. Як адна непарыўная дзея яна ўжо не адбылася, а ўсякая адтэрміноўка працуе на сталеньне беларускай нацыі. Ды і па ўнутрырасейскіх прычынах у найбліжэйшы час такое немагчыма. Па-першае, Масква знаходзіцца ў стане падзелу і перадзелу ўлады, а па-другое, далучэньне Беларусі створыць яшчэ большае напружаньне ў сьферы расейскай эканомікі, чаго яна можа і ня вытрымаць. Немалаважна і тое, што Расея вымушана падтрымліваць перад міжнароднай супольнасьцю імідж дэмакратычнай, цывілізаванай дзяржавы, а таму можна было планаваць толькі «добровольное воссоединение Белоруссии и России». Зрабіць гэта цяпер не дазваляюць эканамічны і палітычны крызіс на Беларусі. Няцяжка ўсьвядоміць таксама, што аб'яднаньне ў адну дзяржаву не надасьць стабільнасьці новай імперыі, якая ўсё больш расхістваецца, не разьвязваючы, як сьлед, свае ўласныя нацыянальныя праблемы. Разам з тым беларусы ўжо адчулі пах свабоды і другасортным народам на ўскрайку федэрацыі быць не захочуць. Сярод 10-мільённага насельніцтва абавязкова знойдуцца асобы, якія будуць працягваць змаганьне за незалежную Беларусь. Цяпер іх непараўнальна болей, чым на пачатку стагоддзя. Тады, каб зламаць гэты рух, патрэбна было фізічна зьнішчыць носьбітаў беларускай ідэі. У сучасным сьвеце зрабіць гэта ўжо немагчыма.

Гістарычнай персьпектывы ня мае і канфедэрацыя, найперш, з той жа прычыны неканстытуцыйнасьці такога акту. Дрэва нашай дзяржаўнасьці пусьціла свае карані ўжо даволі глыбока. Для таго, каб яго выкарчаваць, трэба зьнішчыць нашу канстытуцыю і, фактычна, усю сістэму законаў. Нельга не заўважыць таксама высокую ступень небясьпекі такога тыпу аб'яднаньня і для Расейскай Федэрацыі. Зьмяненьне нестабільнага федэратыўнага ўладкаваньня гэтай дзяржавы на канфедэратыўнае тут жа выкліча імкненьне расейскіх рэспублік і нават рэгіёнаў (тыпу Уральскага і Сібірскага) арганізаваць свае дачыненьні з цэнтрам паводле прыкладу Беларусі, г.зн. як канфедэратыўныя. А гэта ўжо прамая дарога да распаду «великой России». Калі ўсё ж канфедэратыўная дамова будзе аформлена, яна стане ня болей чым палітычным блефам і ня выратуе беларускае кіраўніцтва ад адказнасьці за свае дзеяньні. Класічнай канфедэрацыі не атрымаецца з прычыны нераўнапраўнасьці складовых частак, а на практыцы гэта будзе азначаць замацаваньне палітычнай і эканамічнай інфантыльнасьці Беларусі.

Сітуацыя паказвае на тое, што ў бліжэйшыя гады найбольш рэальным выглядае варыянт узаемадачыненьняў паміж нашай краінай і Расеяй па схеме "калонія-метраполія", што можа рэалізоўвацца пад макіяжам суверэннай Беларусі. Тады нас чакае непарыўнае (яўнае і няяўнае) змаганьне Масквы за ўсталяваньне ў нашай краіне марыянетачнай ўлады.

Што да цяперашняга беларускага прэзідэнта, то канкрэтна прагназаваць яго паводзіны немагчыма з прычыны іх непрагназавальнасьці. На сёньня відавочна, што першая асоба знаходзіцца ў палітычным тупіку. Рэакцыя ў такіх абставінах можа быць рознай. Выпрабаваньне эканомікі сацыялізмам і чужымі інтарэсамі, адсутнасьць палітычнай волі ў дыялогу з Масквой, рэалізацыя антыбеларускіх задумаў прышлых людзей (якімі акружыў сябе прэзідэнт), адкрытае неўспрыняцьце ўсяго нацыянальнага, настойлівасьць ў наданьні рускай мове статусу дзяржаўнай (хоць юрыдычна на рэферэндум было вынесена іншае пытаньне), супрацьстаяньне Захаду, дыктатура і г.д. будуць азначаць, што Лукашэнка цаглінкай за цаглінкай замуроўвае сябе ў гэтым тупіку. Але з тупіка ёсьць і выйсьце, як вядома, - толькі назад. У нашых абставінах гэта азначае - да сваёй дзяржавы, пабудаванай на нацыянальна-дэмакратычных прынцыпах.

Усе тыя падзеі, якія адбыліся на Беларусі апошнім часам, сьведчаць пра тое, што наша насельніцтва можна ахарактарызаваць як нацыю з запозьненым разьвіцьцём (калі ўжыць такое паняцьце з грамадзкай навукі Захаду), а таму патрэбна цярплівая і мэтанакіраваная асьветніцкая праца. Без перабольшваньня можна сказаць, што надыйшоў гістарычны час беларускай інтэлігенцыі. Калі яна адкіне страх, вытрымае выпрабаваньне на патрыятызм, адукаванасьць, маральнасьць і зможа данесьці да ўсяго народу нашу персьпектыву, мы пасьпяхова адолеем усе цяжкасьці.

У шэрагу тых этапаў, праз якія павінна прайсьці наша грамадзтва, бачацца, як асноўныя, наступныя два: усьведамленьне ганебнасьці таго залежнага каланіяльнага стану, у якім мы знаходзімся зараз, і выхаваньне дзяржаўнага патрыятызму. Разам з тым зрабіць гэта магчыма, калі мы канчаткова адправім на сьметнік гісторыі «славянскую» ідэю, якая мае яўны пах русізму. Мы ня зможам разьлічваць ні на якую сьветлую персьпектыву, калі будзем падзяляць свой народ на славян і другасортных неславян. (Цікава, а да якога сорту належыць асоба, у якой адна палавіна славянская, а другая, напрыклад, - цыганская?)

...Бясспрэчна, усё гэтае цёмнае насланьнё на нашу Беларусь сыйдзе. Хочацца спадзявацца, што здарыцца гэта хутка. Як сімвалы каланіяльнага рэжыму адыйдуць і сталінска-лукашэнкаўскія сьцяг ды герб. Нездарма ж на сьцяг з усіх беларускіх арнаментаў выбраны не жыцьцесьцьвярджальны, а той, што сімвалізуе заход сонца і завяршэньне працэсу. Нездарма ж «унікальны герб» мае форму пахавальнага вянка. Па гэтым рэжыме.

Да нас абавязкова вернецца наша гістарычная персьпектыва разам са сьветлай і старажытнай сімволікай, разам з традыцыямі БНР, разам з натуральнай і ганаровай ментальнасьцю беларусаў.

Жыве Беларусь!

**Людміла БЕЛАНОВІЧ.**

